# Няма супольнай базы

(Заканчэньне)

стычнай ідэі, ня мае ў сабе нічога нацыянальна расейскага й для расейскага народу зьяуляецца зьявішчам антынародным. Для гэтых расейцаў змаганьне з бальшавізмам непамерна звужаецца толькі да змаганьня із Сталінскай клікай, ёсьць імкненьнем да «палацовага перавароту», каб на месцы Сталінскага палітбюра пасадзіць іншых людзей, але захаваць і надалей адзіную й непадзельную імпэрыю й шавіністычную тэорыю аб вышэйшасьці й кіруючай ролі расейскага народу, што зьяўляецца выходнай базай расейскага імпэрыялізму. Дык зразумела, што мэты змаганьня нерасейскіх народаў і мэты эміграцыйных расейскіх палітыкаў ня толькі крыжуюцца, але ў вельмі вялікай меры таксама й узаемна сябе выключаюць. Паміж бальшавізмам і нерасейскімі народамі абсалютна няма нічога такога, што-бы іх лучыла. Затое некаторыя элемэнты бальшавізму розьняць яго з расейцамі, але некаторыя, і гэтых бадай што большасьць, іх лучаць. Дык якая-ж тады можа быць каардынацыя супольнай антыбальшавіцкай дзейнасьці?

### НАС РОЗЬНЯЦЬ І ПАЗЫТЫЎНЫЯ МЭТЫ ЗМАГАНЬНЯ

Змаганьне нерасейскіх народаў з бальшавізмам зьяўляецца толькі прадаўжэньнем іхнага змаганьня за сваё нацыянальнае вызваленьне. Якасна яно нічым ня розьніцца ад дабальшавіцкага пэрыяду. Розьніцы бясспрэчна ёсьць квантытатыўныя, паколькі ступень паняволеньня пры бальшавіцкім рэжыме ёсьць без параўнаньня больш удасканалены й безаглядны, чымсьці ў царскую эпоху, і раўналежна з гэтым зьявіліся й новыя мэтады й шляхі змаганьня. Але сутнасьць і ягоная мэта асталася тая самая. Нерасейскія народы імкнуцца да свайго нацыянальнага вызваленьня й незалежнага дзяржаўнага жыцьця, якое было ім заграбленае фізычнай сілай расейскага імпэрыялізму, раней царскага, а цяпер, пасьля перамогі камуністычнага рэжыму — чырвонага. Нерасейскія народы зусім ня могуць быць зацікаўленымі ў тым, каб ськінуць Сталіна й ягонае палітбюро толькі па тое, каб іхнае месца занялі людзі, што будуць прадаўжаць Сталінскі дэнацыяналізацыйны курс, падтрымліваць культурную адсталасьць і каляніяльную эксплятацыю ў галіне эканамічнай.

На эміграцыі існуе вялікая колькасьць розных расейскіх палітычных арганізацыяў і партыяў. Яны між сабою розьняцца ня толькі ў мэтадах і тактыцы антыбальшавіцкага змаганьня, але, і то галоўна, у паглядах на будучую перабудову падсавецкага Ўсходу. Але ў вадным — у паглядах на праблему нерасейскіх народаў СССР яны ідэальна згаджаюцца. Адзіная і непадзельная Расея — вось іхны лёзунг, які прысьвечвае ўсім бяз выключэньня расейскім палітычным арганізацыям на эміграцыі. Нутраную структуру гэтай «адзінай і непадзельнай» Расеі, як і разьвязаньне ў ей нацыянальнай праблемы, у сваіх палітычных праграмах яны на вонкі бачаць па рознаму. Але гэтыя розьніцы — гэта толькі паасобныя варыянты аднэй і тэй самай адзінанедзялімаўскай канцэпцыі.

Як прыклад, возьмем канцэпцыю расейскіх салідарыстых з пад знаку НТС. Паводля салідарыстычнай тэорыі, у дарэвалюцыйнай Расеі, гэтак сама і ў Савецкім Саюзе, ніякага нацыянальнага пытаньня ня было й няма, яно зьяўляецца выдумкай сэпаратыстычна настроенай жменькі інтэлігенцыі. Яны згаджаюцца, што ў Савецкім Саюзе жывуць розныя народы, але, шляхам натуральнага працэсу гістарычнага разьвіцьця, яны твораць сяньня адзіную супольную нацыю — расейскую. Гэтае зьверхняе паняцьце «Расея», «расейскі» задзіночвае — паводля салідарыстычнай тэорыі — усе народы Савецкага Саюзу й родзіць у іх пачуцьцё супольнасьці й адзінства. Гэтая легенда зьяўляецца пакладзенай у васнову палітычнай праграмы НТС, гэткі пагляд абараняў, як дакананы факт, галоўны рэдактар салідарыстычнага воргану «Посев» Е. Раманаў на пашыранай рэдакцыйнай нарадзе гэтага часапісу ў Франкфурце 12—15 верасьня сёлета, а 26 верасьня гэтую легенду паўтарыла ягонымі словамі радыё «Голас Амэрыкі», якое, да рэчы зазначыць, знаходзіцца ў веданьні міністэрства замежных справаў ЗША.

Бальшавікі дзеля замаскаваньня на вонкі сваіх русыфікатарскіх мэтаў высунулі тэорыю «савецкага народу», які яны намагаюцца штучна тварыць на базе расейскае культуры, мовы, расейскага патрыятызму й навет мэсыянізму, іншымі словамі прадаўжаюць і прыспешваюць толькі пад новым шыльдам запачаткаваны царскай Расеяй працэс іхнай прымусовай русыфікацыі. Але расейскія салідарыстыя ахвотна апрабуюць гэты Сталінскі экспэрымэнт. Вось словы аднаго зь сяброў рэдакцыі газэты «Посев» Л. Ржэўскага, сказаныя ім на тэй-жа рэдакцыйнай нарадзе (цытуем за газэтай «Посев» за 21. 9. 1952): «Сьвет савецкі — гэта якраз і ёсьць сучасны расейскі сьвет. Тэрмін ‚савецкі' зьяўляецца ў сутнасьці ня чым іншым, як умоўным абазначэньнем расейскага чалавека, што знаходзіцца пад савецкай уладай. Адсюль вывад — нельга праціўстаўляць ‚сьвет савецкі' — ‚сьвету расейскаму': трэба толькі ўмець знаходзіць, бачыць пад пакрыўкай першага — воблік другога».

Нам скажуць, што гэтак цьвердзяць толькі расейскія салідарыстыя, навет некаторымі расейцамі ўважаныя за арганізацыю з фашыстаўскай ідэалёгіяй, якая, пасьля ўдзелу ў Вісбадэнскай нарадзе, адмовілася далей прыймаць удзел у прыгатаваўчай акцыі дзеля стварэньня супольнага палітычнага цэнтру. Добра, але хай нам пакажуць хоць адну іншую расейскую палітычную арганізацыю, як сярод тых, што прыймаюць удзел у часовай прыгатаваўчай камісіі дзеля стварэньня гэтага цэнтру, так і вонках гэтай камісіі, якая ў сваей практычнай дзейнасьці кіравалася-б іншымі крытэрыямі? Такой палітычнай арганізацыі або партыі сярод расейскіх эмігрантаў ня знойдзеш із сьвечкай.

Дык або чым тады астаецца гаварыць і па што ўся гэтая валакіта, якая трывае ўжо больш году над стварэньнем супольнага з расейцамі фронту антыбальшавіцкага змаганьня? Ці-ж можа быць створаная міжнацыянальная арганізацыя, калі людзі, якім тварыць яе даручана, ня могуць знайсьці супольнае мовы дaслоўна ў ніводным прынцыповым пытаньні? Ясна, што ў такім асяродзьдзі й пры такіх умовах такая арганізацыя паўстаць ня зможа.

Мы ня выключаем і такой магчымасьці, што можа быць змантаваная супольная з расейцамі арганізацыя й названая супольным цэнтрам антыбальшавіцкага змаганьня (навет без «народаў Расеі» у ейнай назве), але ў запраўднасьці будзе яна толькі фікцыяй і няўдалай пародыяй такога цэнтру, нечым на ўзор Уласаўскага камітэту, створанага ў свой час з ласкі Адольфа Гітлера. Трэба раз назаўсёды сказаць адкрыта, што ў тым асяродзьдзі, дзе ня толькі няма супольных мэтаў дзеяньня, але дзе мэты адных партнэраў супярэчаць мэтам, да якіх імкнуцца другія, ня можа быць ніякага ўзгодненага й скаардынаванага дзеяньня.

У прынцыпе мы ўсё-ж такі ўважаем за патрэбную й карысную супольную з расейцамі антыбальшавіцкую акцыю й ня выключаем магчымасьці стварэньня, але на зусім іншых асновах, супольнага палітычнага цэнтру. Як знайсьці гэтыя іншыя асновы, будзе тэмай аднаго з наступных нашых артыкулаў.

**Язэп Каранеўскі**

# Прывітаньні для Прэзыдэнта БНР

**ЯГО МІЛАСЬЦІ ПРЭЗЫДЭНТУ РАДЫ БНР**

**Сп. інж. Мікалаю Абрамчыку.**

**Беларуская Моладзь у Францыі вітае Вас з 50-ай гадавінай Вашага нараджэньня й просіць Усемагутнага, каб Вам даў многа здароўя ў гэты важны мамэнт нашага вызвольнага змаганьня. Мы із свайго боку запэўняем, што пакладзём усе свае сілы, каб дапамагчы нашаму гаротнаму народу парваць ланцугі няволі, а калі зайдзе патрэба, дык пойдзем і ўміраць, каб жыла Бацькаўшчына.**

**Няхай жыве БНР!**

**Старшыня Беларускай Незалежніцкай Арганізацыі Моладзі ў Францыі**
**М. Наўмовіч.**
**Сакратар: В. Міцкевіч**
**Парыж, 10. 9. 1952.**

*

**ЯГО МІЛАСЬЦІ ПРЭЗЫДЭНТУ БНР**

**Сп. інж. Міколе Абрамчыку.**

**Высока Паважаны Спадар Прэзыдэнт!**

**Беларускае Акадэміцкае Згуртаваньне ў Гішпаніі гэтым мае гонар і асаблівую прыемнасьць пераслаць Вам, з нагоды пацьдзесятых угодкаў Вашага жыцьця, свае найшчырэйшыя пажаданьні плённае працы на карысьць нашае Бацькаўшчыны Беларусі й Беларускага Народу.**

**Мы моцна верым, што ўжо недалёкі той час, калі, дзякуючы Вашай ахвярнай працы й змаганьню, нашая старонка станецца ўзноў вольнай і незалежнай краінай.**

**З нашага боку запэўняем Вас, што мы ёсьць заўсёды гатовыя дапамагаць Вам, у чым можам.**

**Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!**

**З даручэньня сяброў Беларускага Акадэміцкага Згуртаваньня ў Гішпаніі:**
**Янка Сурвіла**
**Мадрыд, 10. 9. 1952 г. Старшыня**

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ ПРЭЗЫДЭНТУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

**Сп. інж. Мікалаю Абрамчыку.**

**Згуртаваньне Беларусаў у Аргентыне, якое задзіночвае ў гэтай краіне ўсю новую, а так-жа й сьвядомую частку старой беларускай эміграцыі ў гэтай краіне, вітае Вас, Спадар Прэзыдэнт, з 50-ай гадавінай Вашага нараджэньня й жадае Вам ад шчырага сэрца доўгага жыцьця й плённай далейшай працы дзеля вызваленьня нашага шматпакутнага народу з расейска-бальшавіцкай няволі. Мы ўпэўненыя, што нашае нацыянальна-вызвольнае змаганьне, якое Вы ачольваеце, мае пад сабой здаровы грунт і найлепшыя пэрспэктывы на будучыню, бо яно апіраецца на непахіснай волі беларускага волялюбнага народу жыць сваім вольным незалежным жыцьцём у собскай незалежнай дзяржаве. Таму раней ці пазьней гэтае змаганьне ўкарануецца поўным посьпехам і ўсе мы пад Вашым кіраўніцтвам яшчэ вернемся пераможнікамі на родныя гоні нашае дарагое Бацькаўшчыны.**

**Дык няхай жыве Вольная й Незалежная Беларусь!**

**Управа Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне**
**Буэнос Айрэс, 16. 9. 1952 г.**

*

**АД РЭДАКЦЫІ: На адрас сп. Прэзыдэнта Рады БНР было прыслана шмат прывітаньняў у сувязі зь 50-лецьцем Ягонага нараджэньня й ад паасобных беларускіх дзеячоў на эміграцыі, якіх з прычыны нястачы месца ня можам, на жаль, зьмясьціць у нашай газэце.**

### ПАЗЫЦЫЯ АЙЗЭНГАЎЭРА

(Заканчэньне)

З вышэйшага бачым, што яшчэ рана варажыць аб перамозе Айзэнгаўэра. Ягоныя шансы быць выбраным, якія яшчэ нядаўна выдаваліся бясспрэчнымі, сяньня значна зьменшыліся на карысьць кандыдата дэмакратычнага. Сяньня сьмела можна ўжо гаварыць, што пазыцыі абодвых кандыдатаў, Айзэнгаўэра й Стывэнсона, бадай што аднолькавыя, і аб тым, хто зь іх пасьля 4 лістапада ўвойдзе ў Белы Дом у Вашынгтоне, задэцыдуе далейшы прабег передвыбарнай кампаніі на працягу наступнага месяца. Сяньня сказаць можна адно: радасьць усіх тых амэрыканцаў і не амэрыканцаў, што жадаюць перамогі Айзэнгаўэра і зьяўляюцца ў ей пэўнымі, ёсьць яшчэ вельмі передчаснай.

**Алесь Крыга**

**ЯНКА КУПАЛА**

# Раськіданае Гняздо

## ДРАМА У 5-ех АКТАХ

### АСОБЫ ВЫСТУПАЮЧЫЯ Ў ДРАМЕ

ЛЯВОН ЗЯБЛІК, пажылы гаспадар, кульгавы, гадоў пад 50.

МАРЫЛЯ, яго жонка, нараклівая, але станаўкая кабеціна, замучаная жыцьцём, худая, гадоў 48.

### ДЗЕЦІ ЗЯБЛІКАЎ:

СЫМОН, 24 гады. Дужы й здаровы мужчына, у самым расьцьвеце лет. Горды й адважны. Знае сабе цану і верыць у сваю сілу й моц. Відаць з усяго, што ён трымаў гаспадрку ўсю ў сваіх руках. Зямля для яго ўсім чыста на сьвеце, і за гэту зямлю гатоў пайсьці на самыя страшныя рэчы. Калі з паднятай галавешкай ідзе ў сьвет, кажучы апошнія словы: «па Бацькаўшчыну!», то здаецца, што гэта волат-асілак узьняўся зь зямлі, каб цэлым сьветам здрыгануць.

ЗОСЬКА, 18 г. Кволая дзяўчынка, пранікнутая містычнасьцяй, мэлянхалічная, як-бы ад сьвету гэтага адарваная. Гаворыць часта тое, што і сама добра не разумее, як-бы ў экстазе ці ў поўсьне якім. Любіць яснату й кветкі. Душа ўражлівая, неадгадная. Ня можа пагадзіць акружаючага, будняга й трывожнага жыцьця з сваймі думкамі-снамі напоў дзяцінымі. Носіць беларускую вопратку.

ДАНІЛКА, 14 г. Разумны хлапец не па сваіх гадох, чамусьці лічуць яго скарэй за дурнаватага, чымсьці за разумнага. Цікавіцца ўсім чыста, але часта неўпапад задае пытаньні. Яму ўсе патураюць, мала зварочваючы на яго асобу ўвагі.

АЛЕНКА, 7 г. і ЮРКА, 6 г. Худзенькія, босыя, толькі ў кашульках дзеці. Ува ўсіх актах драмы найбольш нема паміж сабой гуляюць або сьпяць.

*

СТАРАЦ, гадоў пад 70. Абчэпаны торбамі. Відаць, што ўсе яго любяць і шчыра вітаюць. Дабрата і спакой б'е зь яго твару. Крыху згорбіўшыся ад старасьці. Гаворыць проста, бязь лішняе жабрацкае жаласьлівасьці.

ПАНІЧ, гадоў 23, адзеўшыся папанску, ня брыдкі. Відаць, што многа аб сабе думае. Ходзіць з палачкай у руках, якой у часе гутаркі памахавае.

НЕЗНАЁМЫ, гадоў 35. Крэпячы мужчына. Вопратка на ім чорная, крамная. Гаворыць крыху з палачкай, з суважнай павагай, цьвёрда. Верыць у тое, што гаворыць, і ў голасе чутно, што не нагаваравае, а скарэй загадавае. З усяго відаць, што чалавек ён поўны ідэі, у якую сам верыць і якой хацеў-бы каб цэлы сьвет напоўніўся.

ДВОЕ ДВОРНЫХ ЛЮДЗЕЙ.

Рэч дзеецца ў 1905 г. Першы акт у хаце, а рэшта чатыры — на руінах тае-ж самае хаты.

### АКТ ПЕРШЫ

Час каля Купальля. Паўдня. Хата Зябліка. Марыля — хворая: то сядзіць, то ляжыць на ложку. Данілка на зямлі скрыпку майструе. Старац, сівы як галуб, абчэпаны торбамі і з кіём у руках, сядзіць на лаве.

#### ЗЬЯВА I

МАРЫЛЯ — ДАНІЛКА — СТАРАЦ

СТАРАЦ. Так, так пані гаспадыня! Заўсёды бяда бяду вядзе, але ніколі ня трэба здавацца. Ліха перамелецца і ўсё добра будзе. Калісь і мяне ціскалі няшчасьці з усіх бакоў, а цяпер . . . Э! Што казаць? — Жыву сабе і гора ніякага ня знаю. Торбачкі за плечы, кій сукаваты ў рукі і хаджу сабе як ні ў чым ня бывала па дарожках-пуцявінках. Так, так, пані гаспадыня!

МАРЫЛЯ (гавора з трудом). Гэта-ж толькі падумаць, дзедка. Мала ўсялякага безгалоўя, а тут — на табе яшчэ гэта хвароба. Лета не за гарою, скора касьба пачнецца, жніво, работы гібель,, а ты ляжы тут прыкаванай да ложка, як пакутніца якая. Ляпей хай-бы ўжо сьмертачка прыйшла на маю галаву няшчасную, дык хаця-бы хаты не завалівала. Ня так я вясну спатыкала і праводзіла, як мне сёлета прыйшлося, ох, ня так, як і сам знаеш! (Кашляе.) А гэты суд у майго з дваром . . . То-ж не давядзі ты Божанька! Гаспадарку ўсю змарнавалі, да няма нічога дайшлі, і сягоньня ўжо ня ведаеш чалавек, дзе заўтра сонейка прыдзецца сустрэціць. Ох, Божа ты наш справядлівы, за якія грахі цяжкія караеш ты нашу сямейку! Ах, як-жа цяжанька! Падай мне вады, Данілка! (Данілка падае).

ДАНІЛКА. Праўду мамка кажа. Страшэнна нягодна жыць на сьвеце. Вось хоць-бы і мне такая бяда зрабілася: скрыпку старую, што была ў мяне раней, татка із злосьці паламаў, а цяпер і рабі, што хочаш. Пакуль-жа я новую такую змайструю . . . Ну, але затое калі і зраблю, дык вота-ж зайграю — цэлы сьвет дзіву дасца!

СТАРАЦ. А гдзе-ж гаспадар ваш, пані гаспадыня?

ДАНІЛКА. Тата пайшоў у двор прасіцца, каб яшчэ трохі пачакалі і ня выкідалі нас адгэтуль.

МАРЫЛЯ. Так, так. Сягоньня зыйшоў час наш выехаць, а мой нічога яшчэ сабе ня прыстараўся.

СТАРАЦ. Дрэнна, вельмі дрэнна, калі так выходзе. Свайго ня меўшы — трэба легчы спаць ня еўшы.

ДАНІЛКА. Вось табе дык добра, дзедка: з аднэй хаты выкінуць, дык у другую пойдзеш.

МАРЫЛЯ. Усё-ж да апошняга часу думалі, што за намі зямлю прызнаюць, тым часам наадварот выйшла.

СТАРАЦ. Так, так, пані гаспадыня. Чалавек страляе, а чорт кулю носе.

МАРЫЛЯ. Мой-жа чалавек — каб вы, дзедка, бачылі: за апошні час, як набраў сабе нечага ў галаву, дык проста з розуму зыходзе. Учарнеў, асунуўся, азыс, толькі таўпехаецца з кута ў кут, як сам ня свой. Баюся, дзедка, вельмі баюся, каб зь ім, барані Божа, чаго благога ня сталася.

#### ЗЬЯВА II

ТЫЯ-Ж і СЫМОН

СЫМОН. (Уходзе з тапаром і кладзе яго за лаву). Ці тата яшчэ не вярнуўся?

МАРЫЛА і ДАНІЛКА. Не, нямашака яшчэ.

СЫМОН. А дзедка ўсё госьціць у нас!

СТАРАЦ. Але, сынку мой. З мамкай тваёй загаварыліся аб справах вашых хатніх. Як уважаю, то ня лёганькі будзеце мець сёлетні гадок.

СЫМОН. Э! Нічога, дзядочак. Пакуль будзе хоць якая малая магчымасьць, то не дадземся жыўцом ваўку ў зубы. Палядзіш!

СТАРАЦ. Сьмела, сынку мой, варожыш. Можа і не дасіся ваўку ў зубы, але жыцьцё бярэ ў свае лапы, ох, як бярэ! Не такія яшчэ дужыя і сьмелыя здаюцца на яго ласку й няласку. Так, так, сынку мой! Адвага наша — адно, а жыцьцё — другое, і найбольш верх бярэ гэта апошняе.

СЫМОН. А мы з татам не папусьцімся, дык што-ж з намі гэта жыцьцё зробе?

СТАРАЦ. Тата ўжо ня дуж твой.

СЫМОН. Ну, то ў мяне сілы хопіць — за яго, за сябе, за ўсіх нас.

СТАРАЦ. Дай Божа, дай Божа, каб табе гэтай сілачкі ставала да канца жыцьця. Бяда толькі, што сіла людзкая не заўсёды на дабро ідзе.

СЫМОН. Я і ня думаю з сваёй сілай у цемнякі ці разбойнікі пайсьці.

СТАРАЦ. Не кажу табе гэтага, сынку мой, але маладасьць сваё права мае. Я сам быў маладым!

МАРЫЛЯ. Нічога яму, дзедка, не ўгаворыш. Ні такой падатлівай натуры ён у мяне ўдаўся. Хоць галавой наложыць, а свайго мусіць дапяць.

ДАНІЛКА. Сымонка, ты па мне пайшоў: і я хоць галавой налажу, а скрыпачку такі зраблю сабе новую!

СЫМОН. Які я ўжо ўдаўся, такі і буду, а свайго ў крыўду не папушчу, хоць-бы там сьвет да гары нагамі перакуліўся. Бяда — часу няма балей гаварыць аб гэтым. Пайду, можа тату сустрэну. Карціць мяне даведацца, што там яму ў дварэ сказалі.

#### ЗЬЯВА III

МАРЫЛЯ — ДАНІЛКА — СТАРАЦ

СТАРАЦ. Ох, маці, маці! Высака твой сынок падымацца хоча, але каб нізка часам не зваліўся.

МАРЫЛЯ. Цяжанька мне зь ім якую радачку даць. Змалку дзён такі: як толькі нарадзіўся, дык і то сябе паказаў — грудзей ня прыняў, так, без малака, качаўся. Я тады ў двор за мамку засталася.

СТАРАЦ. Гартаўнейшы і выйшаў ён за тое. А ў двары, кажуць, перамены цяпер вялікія пайшлі.

МАРЫЛЯ. Але, дзедка — перамены. Як вярнуўся малады паніч недзе з далёкага краю, з навукаў, дык усё пайшло ўверх дном — усіх чыншавікоў сталі чысьціць. Не чакае, пакуль суды пакончацца, а наперад за ўсіх заставы кладзе і высяляе; з намі так сама выйшла.

СТАРАЦ. Ведаю, ведаю, пані гаспадыня! Старыя парадкі раськідаюць, а новых, лепшых, нешта ня відаць і ня відаць.

ДАНІЛКА. Як уважаю, то мусіць толькі я адзін новым парадкам на сваёй новай іскрыпачцы зайграю.

